# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 37 (1531) ГОД XXX БЕЛАСТОК 15 ВЕРАСНЯ 1985 г. ЦАНА 10 зл

## СЕЛЯНІН ЗАЎТРАШНЯГА ДНЯ

Калі б вам давялося ў Беластоку ці Варшаве сустрэць яго недзе, скажам, на канцэрце, выстаўцы ці ў нейкім дыскусійным клубе — усюды ад яго пачулі б удумлівую і разважлівую думку, спасцярогу, меркаванне. І ніхто, не ведаючы яго асабіста, не здагадаўся б, што гэты прыемны, густоўна апрануты чалавек — гэта селянін з самага глухога кутка Беласточчыны. І то яшчэ які селянін! Са сваё 18-гектаровай гаспадаркі ён штогод прадае дзяржаве 4 тоны ўбойнай жывёлы, некалькі дзесяткаў тысяч літраў малака, у сярэднім па 50 тон бульбы (нават у мінулым неўраджайным на бульбу годзе ён даставіў яе на пункт скупкі 22 тоны). Яшчэ больш здзівіць тое, што ён — інжынер-аграном, выпускнік Варшаўскай сельскагаспадарчай акадэміі, якую закончыў у 1976 годзе.

Хто ён? Не будзем трымаць у няпэўнасці: гэта Міраслаў Суравец з вёскі Зубрыца Вялікая, што ў Шудзяўскай гміне.

(Працяг на стар. 3)






## ЯШЧЭ ПРА СТУДЭНЦКІ РЭЙД „БАЦЬКАЎШЧЫНА“

Бацькаўшчына гэта зямелька, на якой мы нарадзіліся і нарадзіліся нашыя дзеды і прадзеды, якая нас выхавала і навучыла штосьць, што найдаражэйшае ў свеце. На жаль, сапраўдную цану Бацькаўшчыны чалавек пазнае толькі тады, калі кіне яго лёс у другую краіну ці ў другі горад, далёка ад роднай хаты.

І дзеля таго, каб не забываць, адкуль мы родам і хто мы, быў арганізаваны ўжо другі рэйд. За гэтых пяць дзён мы пабывалі ў розных мясцовасцях, сустракалі розных людзей, бачылі розныя справы, якія іх турбуюць, ну, і яшчэ раз пераканаліся, што наша зямелька гэта „добрая зямля добрых людзей“. І сапраўды, усюды вельмі гасцінна нас прымалі, за што мы да сёння вельмі ўдзячны.

Праграма рэйду прадугледжвала наведаць месцы, цікавыя сваёй архітэктурай, і пазнаёміцца з іх гісторыяй. Амаль кожны вечар чакала нас вогнішча. Вельмі прыемна было пасядзець і паспяваць народныя песні з толькі што пазнанымі людзьмі. Сэрца радавалі родныя словы на вуснах малалых і старых, знаёмыя песні.

Таксама гутаркі аб гісторыі Клейнік, Гарадка, Заблудава ўзбудзілі наша зацікаўленне: здавалася б, такія малыя мясцовасці, а якая ж багатая гісторыя крыецца ў кожным дні іх іспавання.

Афіцыяльны пачатак II рэйду „Бацькаўшчына“ адбыўся ў Гарадоцкім доме культуры, дзе мы спаткаліся з мясцовым хорам. Яшчэ доўгі час звінелі ў вушах словы народных песень, якія мы разам спявалі. Дзень закончыўся вогнішчам, якое падрыхтавала гарадоцкая моладзь. На другі дзень нам удалося паглядзець царкву, касцёл і месца, на якім стаяў калісь замак славутых Хадкевічаў.

У палудзень давялося падзякаваць за гасціну і рушыць далей у дарогу, і, хоць некаторыя заблудзіліся трохі (даўняя Заблудаўская пушча зрабіла сваё), то пад вечар усе апынуліся ў Заблудаве, дзе ўжо чакаў нас з дакладам наш старшы сябра Антон Мірановіч, які расказаў нам пра гісторыю Заблудава, а тым самым раз'ясніў ролю, якую адыгрываў гэты горад у мінулым. Вечарам адбылося спатканне з заблудаўскай моладдзю, якая ўжо другі раз вельмі гасцінна нас прымала.

(Працяг на стар. 3)

## Нашэсце на Святую гару

На Грабарку ўжо на пару дзён да свята Спаса пачалі з'язджацца госці.

Пасля свята таксама астануцца „сляды“, хаця Сіманенка выкапаў вялікую яму на адкідкі. Асабліва страшна будзе выглядаць пляц, дзе былі ларкі — засыпаны бруднай, мокрай паперай, фольгай і іншым барахлом. Гандляры пхаюцца ўсюды, і ніякая святая гара перад імі не абароніцца. Яны павырывалі з зямлі знакі, на якіх не дазвалялася раскладаць крамы. Не памагло б, каб і сам Хрыстос прыйшоў сюды і пачаў іх выганяць словамі, якімі выкідаў гандляроў з святыні ў Ерусаліме: „Няўжо не напісана, што дом мой — гэта дом малітвы для ўсіх народаў, а вы ўчынілі яго домам разбойнікаў!“ У Ерусаліме перад святыняй толькі мянялі грошы і прадавалі галубкоў на ахвяру, а на Грабарцы мы маглі ўбачыць цэлы арсенал сучаснай арміі — пісталеты рознага калібру, карабіны, „пукаўкі“, танкі, самалёты, амерыканскія і турэцкія шлёмы, мечы і шпагі для нашых дзетак, каб гулялі сабе ў вайну. Можна было сабе купіць партрэт цудоўнай Ізаўры з Леонцыем, гіпсавага аленя, пеўня, цукерку, люстэрка з голай дзяўчынай ці партрэт папы рымскага (яны ляжалі побач!), выйграць „залаты“ ланцужок ці чырвоную мышку, а нават пачку папярос і карты.

З'ехалася многа народу. На палатачным выгане паявілася многа „вечных бівакоўцаў“. Прыбылі стрыжаныя местачкова-гмінныя „панкі“, якія прыехалі проста з канцэртаў „маладой музыкі“ ў Яраціне, і іншыя, ледзь адзетыя ў рваныя нагавічкі і кашулі з сетачкі, з ранцамі, у якіх грукалі бутэлькі...

Гэта быў „злёт“ не толькі „нашай“ моладзі. Прыехалі таксама людзі, якія нічога супольнага не маюць не толькі з нашай верай, але ўвогуле з хрысціянскай прыстойнасцю. Будзілі нас ноччу з кароткага сну нейкія квікі і смехі-ржанне дзяўчат, аб вяроўкі нашай палаткі спатыкаліся п'яныя. Некаторыя цэлымі днямі валяліся на выгане, не заглянуўшы нават на мінуту ў царкву!

Наша палатка М-4 аказалася палацам М-9+2 (двое з Міхалова начавалі ў „сенях“). Са мной была сястра з Меляшкоў, Ярэк, Эля, Бажэна і Юрка з Гарадка, Мажэна з Бельска і двух хлопцаў-католікаў, якіх мы прынялі „пад дах“.

Гжэсь Вятр і Ярэк Карыбут сустрэліся выпадкова. Грышка сам аж са Ніцаўна (гэта ў Валбжыхскім ваяводстве, у супрацьлеглым „рагу“ Польшчы), а Ярэк — з Бжэзін каля Лодзі. Хлопцы вандравалі „аўтастопам“, працавалі на дарозе, каб пражыць. „Прабягаць будзем землі чужых народаў, каб паспытаць дабра і зла між людзьмі“, — цытавалі Святое пісанне. Ярэк быў ужо раз на Грабарцы, у прошлым годзе. Сустрэў тут людзей, якія яму спадабаліся — пагаварылі, угасцілі, паказалі, як пішуцца іконы, прыгожа спявалі.

— Каб тады моладзь сябе так паводзіла, як гэтая, — сказаў Ярэк, — я сюды не прыехаў бы сёлета...

(Працяг на стар. 6)




## АБ ДЗЯРЖАЎНАСЦІ І НАЦЫЯНАЛЬНАСЦІ (III)

Пытанне дзяржаўнасці і нацыянальнасці, так характэрнае для беларусаў, мае яшчэ адзін дадатковы аспект. Якраз ніхто іншы, як мы самі, беларусы, блытаем нацыянальнасць з веравызнаннем. Як жа часта яшчэ да сёння ў беларускіх вёсках можам сустрэцца з такім бессэнсоўным разуманнем: я праваслаўны — значыць рускі, я католік — значыць я паляк. Нярэдка ўжываюцца таксама панацці „рускай" і „польскай" рэлігіі. Трэба тут, несумненна, аддаць належнае здольнасцям рускага і польскага духавенства, якое дзякуючы ўпартай, многавечнай, прадуманай акцыі, увяло ў галовы і сэрцы бедных беларусаў такія баламутныя, агістарычныя, бессэнсоўныя панацці. Трэба аднак прызнаць, што з пункту гледжання рускага і польскага клерыкалізму такі, вытвараны ў канцы канцоў, стан з'яўляецца вялікім дасягненнем чужых беларускай нацыянальнасці сіл.

Элементарна развітаму чалавеку вядома, што веравызнанне не вызначае нацыянальнасці. Праўда, ёсць народы, сярод якіх дамінуе адно веравызнанне. Для прыкладу, дамінуючай рэлігіяй палякаў, іспанцаў ці італьянцаў з'яўляецца каталіцызм. Але ёсць многа народаў, рэлігійна падзеленых. Для прыкладу, немцы падзелены на евангелікаў і католікаў, да гэтага маюць яны сёння дзве дзяржавы. Але бадай ніводнаму жыхару дзвюх Германій і двух веравызнанняў не прыходзіць у галаву думка, што ён не немец. Падзелены рэлігійна і многія іншыя народы, напрыклад, швейцары, англічане, не гаворачы ўжо аб амерыканцах, сярод якіх, мабыць, жывуць усе рэлігіі свету.

Усім вядома, што ёсць дзяржаўнасць нямецкая, аўстрыйская, кітайская, польская, егіпецкая, але няма нідзе рэлігій нямецкай, аўстрыйскай, кітайскай, польскай, егіпецкай. Ёсць затое такія рэлігіі, як праваслаўная, каталіцкая, ісламская і многія іншыя. Усе гэтыя рэлігіі або частка з іх можа выступаць у адной дзяржаве.

Прыналежнасць да дзяржавы, а тым болей да веравызнання не акрэслівае нацыянальнасці чалавека. І таму смешна, а ў існоце трагічна выглядаюць дэкларацыі ўсіх тых беларусаў, якія ўразрэз з аўтэнтычнай праўдай ілгуць, гаворачы, што яны палякі. Зрэшты, не толькі гавораць, але і пішуць. На жаль, не раз я бачыў анкеты, часта адукаваных людзей, у якіх у рубрыцы „нацыянальнасць" было напісана — polska, а ў рубрыцы „język ojczysty" — polski. Мне здаецца, што такіх малайцоў варта было б паставіць перад тварам карнай адказнасці. Справа ў тым, што бацькі гэтых асоб заўсёды паслугоўваліся беларускай мовай і яны, скрываючы гэты факт і прыпісваючы сабе іншую родную мову, уводзяць у зман дзяржаўныя органы. Гаворачы іншымі словамі, з'яўляюцца яны паспалітымі ілгунамі, якім не павінна верыць ніводная дзяржава, бо вядома, што чалавек, які абалгаў усіх у такой карэннай справе, як родная мова, абалжэ і ва ўсіх іншых справах.

Ёсць іншы аспект гэтай праблемы. Чаму такі ці іншы беларус з такой палкасцю заяўляе, што ён не беларус? Ці тут вінаваты толькі ён, ці яшчэ нехта іншы? Падумайма!

**Алесь Барскі**




## СТАТЫСТЫЧНЫ ДАВЕДНІК

У выдавецтве „Беларусь" пабачыў свет чарговы выпуск штогадовага кароткага статыстычнага даведніка — „БССР у лічбах, 1984 год", падрыхтаванага Цэнтральным статыстычным упраўленнем Беларускай ССР. У ім змешчаны дадзеныя аб эканамічным і сацыяльным развіцці рэспублікі ў чацвёртым годзе адзінаццатай пяцігодкі ў супастаўленні з 1940, 1960, 1970, 1975, 1980 і 1983 гадамі.

Асобны раздзел даведніка — „Народная адукацыя і культура". У падраздзелах даюцца звесткі аб колькасці масавых бібліятэк, клубных устаноў, кінаўстановак, выпуску кніг і брашур, часопісаў і газет. У прыватнасці, летась было выпушчана 3 264 назвы кніг і брашур агульным тыражом 50,6 мільёна экземпляраў, выходзіла 106 часопісаў і іншых перыядычных выданняў — гадавы тыраж 36,2 мільёна экземпляраў, 207 газет разавым тыражом 5,2 а гадавым — 881 мільён экземпляраў.

## БАБРУЙСКІ ЖЭНЬШЭНЬ

На Бабруйскім гідролізным заводзе пачалася вытворчасць біяжэньшэню — замённіка каштоўнай прыроднай расліны. Для гэтага ў памяшканні, рэканструяваным сіламі работнікаў прадпрыемства, створаны спецыяльны ўчастак.

З навукова-даследчага інстытута завадчане атрымліваюць штам культуры жэньшэню. Затым ва ўмовах высокай стэрыльнасці на працягу 30 сутак нарошчваецца яго біямаса.

Прамысловы жэньшэнь знаходзіць шырокае прымяненне ў медыцынскай, касметычнай і харчовай прамысловасці. Сёлета будзе выпушчана 10 кілаграмаў сухога жэньшэню, а затым вытворчасць узрасце ў некалькі разоў.

## СПОРТ

✲ Чэмпіянат Еўропы па водных відах спорту прайшоў у Сафіі.

У скачках з 10-метровай вышыні залаты медаль заваявала мінчанка Анжэла Стасюлевіч. Яе зямлячка Ірына Сідарава заняла другое месца на трампліне.

✲ На маладзёжным першынстве СССР па спартыўнаму арыентаванню беларускі армеец С. Мяцеліца стаў трэцім прызёрам на дыстанцыі 9,5 кіламетра.

✲ Бронзавы медаль на чэмпіянаце Савецкага Саюза па веласіпеднаму спорту ў гонцы на 205 кіламетраў заваяваў Рыгор Тарасаў з Мазыра.

✲ Высокімі вынікамі парадавалі беларускія лёгкаатлеты на першынстве краіны.

Аляксандр Васільеў паўтарыў усесаюзны рэкорд у бар'ерным бегу на 400 метраў — 48,33 секунды. Рэкорд БССР у кіданні кап'я ўстанавіла Наталля Каленчукова. Два медалі на ліку бягунні Равілі Аглятдзінавай.

✲ На першынстве Савецкага Саюза па пажарна-прыкладному спорту беларус Рыгор Шорах заваяваў чатыры медалі ў асобных відах спаборніцтваў.

✲ У Пінску прайшоў чэмпіянат прафсаюзаў краіны па рускіх шашках.

Першае месца заняў мінчанін Аркадзь Плакхін.

✲ Міжнародная аматарская федэрацыя баскетбола прысвоіла званне „Ганаровы міжнародны суддзя" беларускім арбітрам Барысу Мінкову і Яўгену Сіроткіну.




Некаторыя з навуковых доследаў Марыі Чурак (Інстытут славяназнаўства Польскай акадэміі навук у Варшаве).

Kilka uwag o adnotacjach na rękopisach Michała Federowskiego, Slavia Orientalis, nr 1, 1967, s. 45—51.

Śmiech makabryczny w białoruskiej bajce ludowej. Slawistyczne studia literaturoznawcze poświęcone VII Międzynarodowemu Kongresowi Slawistów, Wrocław 1973, s. 59—64.

Literatura białoruska o II wojnie światowej i jej recepcja w Polsce. Literatury słowiańskie o II wojnie światowej, t. 1, Wrocław 1973, s. 251—266.

Фрагменты гэтага артыкула ў перакладзе на беларускую мову былі апублікаваны ў штогодніку „Далягляды", Мінск 1975.

Michał Federowski, Lud białoruski. Inedita. Pieśni z archiwum zbieracza, t. VIII. Opracowała M. Czurak, Warszawa 1981.

Pieśni polskie w zbiorze „Lud białoruski" Michała Federowskiego, Studia Polono-Slavica-Orientalia. Acta Literaria, t. VII, Wrocław 1981, s. 59—74.

Pieśni ludowe z południowej części Białostocczyzny (wspólnie z M. Wróblewskim). Tamże, s. 311-322.

Беларуская літаратура пра II сусветную вайну і яе ўспрыняцце ў Польшчы, Мост праз стагоддзі, Беласток 1982, стар. 49—65.

Komizm w białoruskiej prozie ludowej (streszczenie pracy doktorskiej), Biuletyn Slawistyczny, VI, Warszawa 1981, s. 89—92.

Komizm w białoruskiej prozie ludowej, Wrocław 1984, s. 145.

Komizm językowy w białoruskiej prozie ludowej, Acta Balcito-Slavica, Wrocław 1984, s. 73—86.

„Lud białoruski" M. Federowskiego a polska bajka ludowa, Studia Polono-Slavica-Orientalia, Acta Literaria, t. IX (w druku).

**Ю. Трачук**




## ПАКУТНІЦА „ІРА"

У ЗША, краіне якую апалагеты капіталізму расхвальваюць як „эталон свабоды, дэмакратыі і роўнасці", да гэтага часу жаночая палавіна насельніцтва і юрыдычна, і фактычна пазбаўлена роўнасці з мужчынамі. Канстытуцыя ЗША, прынятая ў 1788 годзе, не надзяліла жанчыну ні палітычнымі, ні юрыдычнымі правамі.

Амаль паўтара стагоддзя стукалі амерыканкі ва ўсе дзяржаўныя дзверы, пакуль, нарэшце, дабіліся, што папраўка да канстытуцыі, якая дала жанчынам права голасу, была прынята ў кангрэсе і ратыфікавалася штатамі. Атрымаўшы права голасу, жанчыны задумаліся: „А як жа з астатнімі правамі — юрыдычнымі, эканамічнымі?" І зноў прасілі, малілі, мітынгавалі амаль паўстагоддзя, пакуль у сакавіку 1972 года кангрэс не прыняў яшчэ адной папраўкі (ІРА). Ды прыняцце кангрэсам — яшчэ не закон, каб папраўку ратыфікавалі дзве трэці штатаў. І заварылася каша! Пачалі стварацца ўсялякія арганізацыі з прычыны гэтай самай „ІРА". Большасць была за „ІРА", але нават сярод жанчын знайшліся такія, што аб'ядналіся пад лозунгамі „Лігі хатніх гаспадынь" і іншых ліг. „Мы, амерыканкі, свабодныя рабіць усё, што хочам", — абвясціла жонка былога дзяржсакратара ЗША Г. Кісінджара — Нэнсі. Пазней яе падтрымала яшчэ адна Нэнсі... Пачалася дэмагогія вакол папраўкі. Вісела небарака „ІРА" на валаску — не хапала галасоў трох штатаў. Мінулі тэрміны, адведзеныя на ратыфікацыю, — і небарака „ІРА" грымнулася на дол, сканала.

Чаму так адбылося? Дык таму, што амерыканскаму капіталу выгадна дыскрымінацыя па прызнаку полу. Гэтая „жаночая раўнапраўнасць" магла б каштаваць прадпрымальнікам вялікіх грошай.

Кампаніі за кошт няроўнасці ў аплаце мужчынскай і жаночай працы штогод эканомяць многія мільярды долараў. А рэальнасць такая — жанчына ў ЗША атрымлівае за роўную з мужчынамі працу ўсяго 59 працэнтаў ад іх зарплаты.

Ды каб толькі гэта! Сярод беспрацоўных тут удвая больш жанчын, чым мужчын, а беспрацоўных негрыцянак удвая больш, чым белых. Жанчыны ЗША толькі за першы год праўлення кабінета Рэйгана ў выніку перадачы сродкаў з бюджэту на карысць Пентагона згубілі 1 280 000 рабочых месц. Двое з кожных трох амерыканцаў, якія знаходзяцца ніжэй афіцыйнай рысы беднасці — жанчыны. У ЗША практычна няма законаў, што замацоўвалі б правы жанчын на аплатны водпуск па цяжарнасці, на захаванне рабочага месца ў выпадку часовай адсутнасці ў сувязі з нараджэннем дзіцяці, тут высокі кошт медыцынскага абслугоўвання. Адміністрацыя Рэйгана, ідучы мілітарысцкім курсам, скараціла і скарачае дапамогу бядотным сем'ям з малымі дзецьмі, на прадуктовыя талоны для галадаючых (85 працэнтаў атрымальнікаў такіх талонаў — жанчыны і дзеці).

**М.К**

# СЕЛЯНІН ЗАЎТРАШНЯГА ДНЯ

(Працяг са стар. 1)

Як заўсёды бывае з людзьмі саліднай, шчырай працы, ён не надта шматслоўны, не любіць траскучых слоў ды разглагольствавання пра сябе і свае пачуцці. Пра сваю пашану да бацькоў, улюбёнасць у родны куточак і жаданне ўласнай працай зрабіць яго яшчэ больш прытульным. М. Суравец кажа вельмі проста:

— Што ж, закончыў я Сакольскі агульнаадукацыйны ліцэй і нават збіраўся паступаць у вышэйшую школу. Але ж задумаўся, прыгледзеўся да бацькоў — застануцца на сваёй гаспадарцы адны, бо ў сям'і нас двое было: я ды сястра Марыся — старэйшая за мяне. Яна выйшла замуж на гаспадарку ў суседнюю вёску Хмялеўшчыну. І шкада мне стала, што ўсё тое, чым жылі мае бацькі — яны ж прыдбалі гэтую гаспадарку, толькі ўласнымі рукамі ўзнялі яе да самых лепшых у вёсцы — паступова занепадзе, зарасце карчамі таксама, як мноства іншых у нашых ваколіцах. А тут яшчэ бацька распачаў пабудову новага вялізнага хлява. Трэба было брацца за работу, а не збірацца ў свет...

І ён узяўся. Поруч з бацькамі вывозіў гной, араў, сеяў, касіў... А ў той час яшчэ трактар на вёсцы быў рэдкасцю, машын таксама не было і ўсё трэба было з конікам ды рукамі. Трэба ж было і грош які збоку прыдбаць, калі ўжо не ў гаспадарку, то хоць на ўласныя „кавалерскія" кішэнныя выдаткі. І Міраслаў пачаў працаваць бухгалтарам спачатку ў сельскагаспадарчым гуртку ў Зубрыцы, затым у машыннай базе ў Бабіках. І так ужо павялося: удзень за працай на гаспадарцы, а да позняй ночы — корпанне ў паперках. Але ж спраўляўся з адным і другім ды нават наважыўся ўзяцца за трэцюю справу — паступіў на завочнае аддзяленне Варшаўскай сельскагаспадарчай акадэміі. Напэўна нялёгка было, асабліва на пятым курсе, калі заняткі адбываліся не ў беластоцкім філіяле Акадэміі, а ўжо ў Варшаве. Затое навука адкрыла яму незвычайныя патэнцыяльныя магчымасці, якія тояцца ў сельскай гаспадарцы. Ён не быў пасіўным студэнтам-тэарэтыкам, усё правяраў на практыцы, на ўласным загоне ды ў сваім хляве. Праўда, заўсёды прыслухоўваўся і лічыўся з заўвагамі і меркаваннямі бацькоў — патомных з дзеда-прадзеда тутэйшых сялян, якія сваімі назіраннямі за прыродай ды разважаннямі над працэсамі ў ёй былі сапраўднымі мастакамі ў сельскай гаспадарцы. І не ашукаўся: вынікі былі заахвочваючымі і даходы з гаспадаркі павялічваліся. Збіралі грош да гроша, ашчаджалі ды.. набывалі машыны, пародзістую жывёлу, пашыралі будынкі.

Але што не кажыце, Міраславу пашанцавала, пашчасціла ў жыцці. Пазнаёміўся ён з дзяўчынай з суседняй вёскі Паплаўцы. Крысціна закончыла медыцынскі ліцэй і працавала ў горадзе, яе бацькі раней жылі і працавалі ў Гданьску, ды потым вярнуліся на бацькаўшчыну, заняліся сельскай гаспадаркай. І калі знаёмства маладых звянчалася шлюбам, не было вялікіх праблем, што рабіць далей. Крысціна прыйшла ў мужаву сям'ю з намерам разам з ёю жыць і працаваць. Праўда, спачатку маладым мроіліся раскошы гарадскога жыцця, Крысціна не пакідала працы ў ахове здароўя. Але разам з тым, як прыйшлі дзеці — два хлапцы — заслужаны гонар бацькі — мары пра гарадское выгоднае жыццё сышлі ў забыццё. Зямля клікала і патрабавала іхняй працы, стараннЯў, думак і яны ўсёй сям'ёй: бацькі, дзеці і ўнукі — тры пакаленні — паслухмяна падпарадкаваліся гэтаму клічу.

— Спачатку я нацэліў сваю гаспадарку на вырошчванне спажыўное бульбы ды гадоўлю быдла і свінней. І нават нядрэнна выходзіла, бо „флісак" слаўся, як брук. Але цяпер узнікла праблема: замала рук для збірання бульбы. Таму буду пакрысе пераходзіць на збожжавыя. Хоць зямля ў нас слабенькая — V-VI класы, але дзякуючы пасадцы бульбы вырабілі мы яе як належыцца, і можна ўжо сеяць не толькі ячмень, але мясцамі і пшаніцу. З гадоўляй цяжэй — няма натуральнай пашы і сенажаці, а на пясчаным полі травы не вырасціш. Таму з гадоўляй не станем разгавяцца, але і не будзем здаваць пазіцый: будзе малака, ялавічыны, свініны не меней як дагэтуль...

Вобраз Міраслава Сураўца быў бы няпоўны, калі б не згадаць пра тое, што ён не патрапіць замкнуцца толькі ў межах свае гаспадаркі ды абмежавацца да сваіх спраў. Ужо ў ліцэі ён актыўна дзейнічаў у гарцэрстве, быў ініцыятарам заснавання футбольнай каманды ў сваёй вёсцы, удзельнічаў у працы Саюза сялянскай моладзі. Людзі яго шануюць і паважаюць з маленства за яго пачцівасць, сумленнасць, працавітасць. І яму пачалі даручаць штораз больш адказныя грамадскія функцыі: спачатку ў сялянскім саюзе, затым у гмінным і ваяводскім праўленнях Саюза сялянскіх гурткоў (сёння М. Суравец уваходзіць у склад Прэзідыума ваяводскага праўлення гэтай арганізацыі). Ён — шматгадовы дзеяч Гміннай рады нарадовай у Шудзялаве, а цяпер яе старшыня. Уваходзіў таксама ў Ваяводскую раду нарадовую. І гэта натуральна, бо хто як хто, але ён добра ведае, што хвалюе нашу вёску, якімі справамі яна жыве, што ёй патрэбна.

— Перш за ўсё неабходна, каб наша прамысловасць урэшце рэшт павярнулася тварам да вёскі і працавала на яе патрэбы ва ўсіх справах ад найменшай шрубкі і да аграмаднага сушыльнага агрэгата, — заўважае М. Суравец. — Неабходна, каб яна ўлічвала фактычную структуру нашай сельскай гаспадаркі і будавала перш за ўсё рознага роду невялікіх памераў камбайны, якія замяняюць працу чалавечых рук, бо людзей у вёсцы штораз меншае. Затым тое, што селянін збярэ ды выгадуе, трэба скарыстоўваць поўнасцю, да драбніцы, таму неабходна будаваць больш і гусцей рознага тыпу магазіны, склады, сушыльні, перапрацоўчыя невялікія прадпрыемствы і каб яны былі блізка селяніна, а не за сямю гарамі. Мусіць быць бліжэй сялянскай сялібы, вёскі — школа, лекар, ветэрынар, тэхнікі па рознага роду машынах і абсталяваннях, а не як цяпер усе паслугі сядзяць па гарадах і пцуюць у гадзінах 8—15, а потым: памірай, здыхай, гінь — нікога гэта не кранае. Каб з вёскі людзі не ўцякалі і сельскагаспадарчай прадукцыі было ў нас удосталь, трэба ствараць сялянам сучасныя варункі жыцця: водаправод, тэлефон, спраўную транспартную сістэму, газ, хоць бы той з балона і г.д. Чаму ж селянін мае быць другацці трэцясортным грамадзянінам? Таму што корміць усю краіну?

Так, Міраслаў Суравец — гэта чалавек мыслячы і ўмеючы пастаяць за сялян, за сваю вёску, гміну. Гэта відаць было і на спатканні з кандыдатамі ў паслы, якое праходзіла 23 жніўня г.г. у Гмінным асяродку культуры ў Кузніцы. Трэба было толькі паглядзець, з якой увагай і задавальненнем слухалі яго выступленне і сяляне, і чыгуначнікі, і моладзь. Яго прамова — гэта былі іхнія нявыказаныя думкі.

Так, Міраслаў Суравец — гэта селянін заўтрашняга дня нашай вёскі.

**М. Гайдук**

Фота аўтара
і Юркі Трачука






(Працяг са стар. 1)

Падобныя спатканні адбыліся ў Нарве і Клейніках. На спатканні ў Нарве выслухалі мы даклад на тэму „Становішча Беларусі і беларусаў у Рэчыпаспалітай і пад уладай царскай Расіі", які падрыхтаваў настаўнік з Гайнаўскага белліцэя Васіль Сакоўскі.

У Клейніках удзельнікі рэйду паглядзелі мясцовую царкву і выслухалі апавяданне пра яе гісторыю. Дзень закончыла супольнае спяванне пры вогнішчы і гутарка аб мінулым Клейнік Сцяпана Базылюка.

Апошнім этапам рэйду была Белавежа, дзе мы і закончылі наша ўжо другое супольнае спатканне. Хаця гэты апошні дзень быў трохі „мокры", бо „вароты" неба адкрыліся, дамоў вяртацца не хацелася; астатняе вогнішча каля ветрака трохі нас абагрэла і прынесла сумныя хвіліны расстання.

Гледзячы з перспектывы часу, першы рэйд, які вёў Лёнік Тарасэвіч, і другі, „сённяшні", гэта вельмі патрэбная і каштоўная ініцыятыва. Гэтакае супольнае прабыванне і перажыванні вельмі гуртуюць і даюць новыя сілы. Думаю, што другі рэйд гэта не апошні, а будуць яшчэ і трэці, чацверты... соты.

А быць удзельнікам гэткага спаткання сапраўды варта.

**Чытачка**

### ЯКОЙ ПАВІННА БЫЦЬ „НІВА"?

Мне падабаецца „Ніва" такой, якая яна ёсць. „Ніва" — адзіная газета ў Польшчы для беларусаў і таму яна піша па-беларуску аб усім. Ад філасофскіх разважанняў на тэму існавання да самых практычных ведаў, ад старажытнасці і мінулага нашага народа да сучаснага хуткага „тэхнічнага" жыцця — вось тэмы артыкулаў, якія публікуюцца ў „Ніве". Чытачы розных узростаў знойдуць заўсёды ў „Ніве" сваю тэму. „Зорка" — для дзяцей, „Сэрцайка" і песні для моладзі, успаміны — для старэйшых, весткі з БССР для ўсіх чытачоў. Зразумела, што пры такім абсягу праблематыкі тыднёвік не можа шырэй пісаць аб сучаснай палітыцы, аб падзеях у цэлай краіне, але і гэтым пытанням адводзіцца часткова месца ў „Ніве".

Мяне ўзрадавала публікацыя на старонках тыднёвіка нарысаў савецкага пісьменніка А. Карпюка „Гома сапіенс". На маю думку, „Ніва" заўсёды павінна друкаваць апавяданні (або іх фрагменты) беларускіх савецкіх пісьменнікаў па той прычыне, што лепшыя беларускія пісьменнікі жывуць у БССР, а іхнія творы з'яўляюцца для ўсіх нас: журналістаў, чытачоў, публіцыстаў, „белавежцаў" — крыніцай беларускага мастацкага слова. Большасць чытачоў ведае ідэйную накіраванасць савецкай літаратуры, а гэта таксама неабходна і нашаму грамадству. Даводзіцца нераз пачуць, што моладзь рэдка чытае „Ніву". Мне здаецца, што не чы-

(Працяг на стар. 4)

# ЗОРКА

## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

Замест таго, каб сядзець на сумным уроку арыфметыкі, нам выпала ўдача капаць бульбу. Калі ўдумацца, капанне бульбы — цудоўны занятак у параўнанні з рознымі там множаннямі лікаў, калі нельга нават голасна высмаркацца, ані патузацца з сябром (хто каго паваліць), ні свіснуць праз пальцы.

Вось чаму мы ўсе, і хлопцы і дзяўчаткі, выдурняліся, як маглі, апынуўшыся замест сумнага класа пад чыстым вераснёвым небам.

Дзянёк стаяў, як рэдка, ціхі, цёплы, залаты з блакітам, калі не лічыць чорнай зямлі пад нагамі, на якую мы не звярталі ўвагі.

Галоўнае выдурнянне заключалася ў тым, што на гнуткі прут мы насаджвалі цяжкі камячок зямлі, і размахнуўшыся, кідалі камячок — хто далей. Гэтыя камякі (а часам у рух ішла і бульба) ляцелі так высока і далёка, што хто не бачыў, як яны лётаюць, той уявіць сабе гэтага не можа. Часам у сінюе неба ўзбівалася разам некалькі камячкоў. Яны пераганялі адзін другога, усё змяншаючыся і змяншаючыся, так што нельга было ўжо дапільнаваць, чый камячок узнёсся вышэй усіх або ўпаў далей.

Я нахіліўся, каб зляпіць камячок, як раптам пачуў моцны ўдар паміж лапаткамі. Рантоўна выпраставўшыся і агляну́ўшыся, я ўбачыў, што па баразне бяжыць ад мяне Віцька з тоўстым прутом у руцэ. Значыць, замест таго, каб кінуць свой камяк у неба, ён падкраўся да мяне ззаду і ўдарыў мяне камяком, насаджаным на прут.

Шмат праменістых сонейкаў заблішчала ў мяне ў вачах, а ніжняя губа здрадніцка задрыжэла: так бывала заўсёды, калі даводзілася плакаць. Не тое, каб нельга было вытрымаць болю. Наколькі я памятаю, я ніколі не плакаў ад фізічнага болю. Ад яго можна крычаць, качацца па траве, каб палягчэла, але не плакаць. Затое лёгка набягалі слёзы на мае вочы ад найменшай крыўды або несправядлівасці.

Ну, за што ён цяпер мяне ўдарыў? Галоўнае, спадцішка падкраўся ззаду. Нічога дрэннага я яму не зрабіў. Наадварот, калі хлопцы не хацелі прымаць яго ў гульню, я першы заступіўся, каб прынялі. З таго часу, калі высвятлілася, што я значна дужэйшы за яго, нас перасталі напускаць аднаго на другога. Чаго ж тут напускаць, калі ўсё вядома! Апошні раз мы пабіліся гады два назад, час ужо было забыцца аб гэтым.

Уладзімір Салаухін

### МСЦІЎЦА

Ні адзін чалавек на загоне не заўважыў маленькага здарэння: па-ранейшаму ўсе збіралі бульбу. Але я ўжо не бачыў ні бульбы, ні сонца, ні неба. У горле стаяў горкі камяк, на душы было чорна ад крыўды і злосці, а ў галаве паявілася думка адпомсціць Віцьку, ды так, каб на другі раз і не прабаваў.

Хутка даспеў план помсты. Праз некалькі дзён, калі ўсё забудзецца, я, нібы нічога і не было, паклічу Віцьку ў лес на цяпельца. А там у лесе і наб'ю морду. Проста і добра. Во ён спалохаецца адзін у лесе, калі я скажу яму: „Ну што, трапіўся мне на вузкай сцежцы?“ Не, я ззаду біць не буду, я яму дам проста ў нос. А можа адплаціць яму, як ён? Раз ён мяне ззаду — значыць, і я яго ззаду. Толькі ён нахіліцца, а я як трэсну яго па вуху, каб загуло па ўсёй галаве. Ён павернецца, і тады я яму скажу: „Ну што трапіўся на вузкай сцежцы?“ А потым ужо і ў нос...

У запланаваны дзень і час, на вялікім перапынку, я падышоў да Віцькі. Затоеную хітрасць не так проста схаваць. Здавалася б, што тут такога: запрасіць аднагодка пасядзець у лесе пры вогнішчы. Звычайна, умаўляемся аб гэтым мімаходам, ніякага хвалявання быць не можа. На гэты раз я хваляваўся. Нават у горле зрабілася суха, ад чаго голас зрабіўся глухі і нібы чужы. А рукі давялося схаваць у кішэні, таму што яны раптам ні з таго, ні з сяго задрыжэлі.

Віцька паглядзеў на мяне падазрона. Яго адстаўўшыя вушы, над якімі віселі саламяныя валасы, пачырванелі.

— Ды ўжо... Я ведаю, ты біцца будзеш. Адплачваць.

— Што ты, я даўно забыўся. Проста раскладзем цяпельца. А то, калі хочаш, палкі будзем выпальваць, а потым размалюем іх. У мяне ножычак востры, учора навастрыў.

Між тым мая сітуацыя заблыталася. Адна рэч — неспадзявана заманіць у лес і там стукнуць па вуху: „нябось ведае кошка, чыё сала з'ела“, а другая — увесь гэткі разгавор. Калі б Віцька аднекваўся, адмаўляўся, а потым неахвотна пайшоў, было б куды прасцей. А то пасля маіх слоў ён усміхнуўся ад вуха да вуха (рот у яго такі — якраз ад вуха да вуха) і радасна згадзіўся:

— Добра, давай пойдзем.

„Я табе пакажу „пойдзем“! — падумаў я.

Пакуль ішлі да гары, я ўсю дарогу стараўся ўспамінаць, як ён ні за што ўдарыў мяне, і як мне балела, і як мне было крыўдна, і як я цвёрда вырашыў яму адплаціць. Я так дакладна і вобразна ўяўляў сабе, што спіна зноў забалела, як і тады, а ў горле зноў стаў горкі камяк, і нават ніжняя губа па-

(Працяг на стар. 10)



Марыя Аліферук з Ляўкова, лаўрэатка конкурсу „Беларуская песня — 85“ для школьнікаў, са сваёй старэйшай сястрой Аняй.

Фота Я. Чэрнякевіч

Яраслаў Пархута

### КАТЫ ЮШКУ ВАРЫЛІ

КАЗКА

Сабраліся аднойчы каты з усяго сяла і пайшлі на раку рыбу лавіць. Налавілі яны рыбы, і кот Мітрафан, які быў старшы сярод іх, запытаўся:

— Смажыць будзем ці юшку зварым?

— Юшку! Юшку! — закрычалі ўсе каты.

Хто пабег у сяло па кацёл, хто скроб рыбу, хто агонь распальваў — усе пры справе былі. Нарэшце кот Мітрафан апусціў у кацёл плотак, пячкуроў ды яршоў, кінуў туды яшчэ рознай прыправы і сказаў:

— Няхай варыцца! А я прайдуся, адпачну трошкі.

... Закіпае кацёл, дымок над ракою віецца, а пах такі стаіць — ні словамі сказаць, ні пяром апісаць. Кот Базыль не вытрымаў, зачарпнуў з катла апалонікам, пакаштаваў і сказаў:

— Солі, здаецца, малавата.

І сыпануў у кацёл жменю солі.

Не вытрымаў і кот Мікіта, таксама пакаштаваў і таксама сказаў:

— Здаецца, перцу малавата.

І сыпануў у кацёл жменю перцу.

Астатнія каты кінулі хто што мог з прыправы — цыбулі, кропу, лаўровага лісту — і паселі ў чаканні.

Вярнуўся кот Мітрафан, узяў апалонік, сербануў варыва і скрывіўся:

(Працяг на стар. 10)



Харавы калектыў з вёскі Тымянка (гміна Нурэц). Салістка — Бажэна Ключак, вучаніца чацвертага класа. Здымак зроблены ў час фэстыну, які адбыўся ў Літвінавічах у чэрвені гэтага года.

Фота В. Рудчыка

## ЖАНЧЫНАМ

Куды б мы хадзілі, каб не вы?
На каго б глядзелі, каб не вы?
Хто б цалаваў нас, каб не вы?
Каму б мы верылі, каб не вы?
Маю ў хаце жонку — палкам вы.
Але ж гэта жонка, а не вы?
З ёю спаць лягаю (праўда, ў іншы ложак).
Але ў марах ночы брак мне вашых ножак!
Няхай нават звыклых: простых ці крывых,
Але ўсё ж пазнаных, але ж не „сваіх“.
Прыкрываю коцам марнасць свайго лонка.
Лонка стала б лонам, каб чужая жонка!
Так у марах ўюся, сон пакінуў вочы,
Нават невядома, што рабіці з ноччу?
Аж прыходзіць жонка, як мара ў белі,
Гасіць маю лямпу — прэцца да пасцелі.
„Божа, што рабіці“? А яна на тое:
„Праўда, ўжо стары ты, але мо абое...?
Можа нешта выйдзе і ў тваёй пасцелі.
Бо чужыя мужы мне ўжо надаелі“.

**Васіль Петручук**



Спартыўнае жыццё.



Сааўтары.

# НАЎКА

**З чаго смяюцца суседзі.**



Экзамен на замяшчэнне вакантнай пасады загадчыка дзіцячага сада.

## ПСІХІЯТРЫ

Прафесар-псіхіятр наведаў бальніцу для псіхічна хворых і пацікавіўся ў галоўнага лекара, як яны вызначаюць, выздаравеў пацыент ці яшчэ хворы.

— Мы напаўняем ванну вадой, кладзем на край чайную лыжачку і прапануем хвораму ўстараніць ваду. Калі пацыент хапаецца за лыжку і з усіх сіл намагаецца выканаць даручэнне, значыць, ён яшчэ хворы. А калі вырывае корак, то здаровы.

— А мне і ў галаву не прыйшло такое рашэнне! — усклікнуў прафесар. — Я б папрасіў апалонік.

## ПЯЦЁРКІ

— Алачка, якія ў цябе ацэнкі?
— Пазаўчора атрымала пяцёрку па беларускай мове.
— А ўчора і сёння?
— Учора і сёння настаўніца пяцёрак не ставіла.

## МАДЭРНЫ ЧАС



**— А ты спачатку ажаніся са мною, а потым я цябе пацалую.**



**Нават вельмі добры чалавек на 90 працэнтаў складаецца з вады.**

## НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

Малады мастак раптам пацалаваў сваю натуршчыцу. Прыкінуўшыся абражанай, тая гаворыць яму:
— Ты цалуеш усіх сваіх натуршчыц?
— Не, — кажа мастак. — Цябе першую.
— А колькі ж іх у цябе было?
— Усяго чатыры: плотка, цыбуліна, талерка і ты...

✻

— Скажыце, пане капрал, за што вы атрымалі медаль?
— Я выратаваў цэлы полк.
— Якім чынам?
— Прыстраліў палкавога кухара!

✻

Кандуктар у аўтобусе:
— Мадам, вам давядзецца заплаціць за хлопчыка — яму больш дзесяці год.
— Гэтага не можа быць, я ўсяго восем год замужам.
— Мадам, — гаворыць кандуктар, — мая справа — збіраць плату за праезд, а не слухаць споведзі.

## ХІБА НЕ ВЕДАЕ

— Мама, мама, глянь, вось у таго дзядзькі на галаве няма ніводнай валасіны!
— Не крычы, ён можа пачуць.
— А хіба ён пра гэта яшчэ не ведае?

**З „Весніка Задрыпоніі“**

## ВЫГОДНА

З радасцю ўспрыняў вестку аб трохразовым павелічэнні штрафу для безбілетнікаў Зайчык з гор. Аглаблёва. Калі раней бяздзейнасць кантралёраў дазваляла яму эканоміць на штрафах 6000—9000 злотых кожны месяц, то цяпер гэта сума павялічылася ў тры разы.

## ПЫТАННЕ РУБАМ

Калі ўсе будуць век вучыцца, то хто будзе працаваць?







І так бывае.

# Курёзы

## ЖЫЦЦЁ ВЫМАГАЕ...

Уласнік аднаго бара ў англійскім мястэчку Уокінгем, дбаючы пра кліентуру, заўсёды выручаў сваіх пастаянных наведвальнікаў ад пагрозы непрыемных размоў з уласнымі жонкамі — брахаў ім па тэлефоне тое, што казалі тыя кліенты. Ды нядаўна ён аб'явіў, што ў цяперашнія цяжкія часы лічыць не мэтазгодным брахаць бясплатна. І ўстанавіў такія расцэнкі: за адказ „Яго тут няма“ — 50 пенсаў, за адказ „Ён толькі што пайшоў адсюль“ — 60 пенсаў, а за „Сёння яго тут не было“ — 75 пенсаў.

## ЛЕПШ ПОЗНА, ЧЫМ НІКОЛІ

Звыш 60 гадоў таму назад 34-гадовы Чарлз Дзергу са штата Масачусетс (ЗША) упершыню асведчыўся ў каханні 30-гадовай Марыён Кантар. Потым ён яшчэ не раз і не два рабіў шлюбныя прапановы сваёй абранцы, але яго неўблаганая дама сэрца не згаджалася. Толькі нядаўна 91-гадовая Марыён дала сваю згоду на шлюб з 95-гадовым Чарлзам. У час шлюбнай цырымоніі шчаслівая нарачоная сказала карэспандэнту мясцовай газеты: „Я не ведаю, як яму ўдалося так доўга чакаць, пакуль я паразумнела“.



**Усё жыццё перахадзіў ад слоў да справы, але так і не перайшоў.**